В. І. Свірыдзенка

# Беларуская мова

Падручнік для 2 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з рускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 1

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*




МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2015

УДК 811.161.3(075.2=161.1)
ББК 81.2Рус-922
С24

Р э ц э н з е н т

канд. пед. навук, дац., вядучы навуковы супрацоўнік лабараторыі пачатковай адукацыі Навукова-метадычнай установы «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь
*М. Б. Анціпава*

Спіс выкарыстанай літаратуры знаходзіцца ў другой частцы падручніка.

## Умоўныя абазначэнні:

 — правіла;

 — інфармацыя пра мову і маўленне (чытае настаўнік);

 — слоўнік;



— заданне па развіцці маўлення;

 — дамашняе заданне;

 — слоўнікавае слова;

.. — пропуск адной літары або некалькіх літар;

... — пропуск слова

ISBN 978-985-559-440-7 (ч. 1)
ISBN 978-985-559-439-1

# УСТУПНЫ МОЎНЫ КУРС

## Вывучаем беларускую мову

**1.** Прачытайце. Што вы ўяўляеце пры вымаўленні гэтых гукаў? Падбярыце адпаведныя малюнкі.

чу-чу-чу-чу-чу



дж-ж-ж дж-ж-ж



оў-оў-оў-оў-оў



цінь-цінь-цінь





дзінь-дзінь-дзінь

ры-ры-ры-ры-ры





га-га-га-га-га

Прачытайце.

| | | | |
|---|---|---|---|
| **ч**ас | ле**ў** | **ц**іха | **дж**эм |
| **ч**мель | ла**ў**ка | ве**ц**ер | **дж**ала |
| **р**ыс | **г**ара | **дз**ень | **шч**ака |
| **р**эпа | на**г**а | лю**дз**і | бор**шч** |

Назавіце «асаблівыя» гукі беларускай мовы, якія сустрэліся ў словах.

**2.** У якім радку словы запісаны па-беларуску? Як вы здагадаліся? Прачытайце гэтыя словы.

Ліст, Мінск, мір, Іра, сліва.
Лист, Минск, мир, Ира, слива.

**3.** Прачытайце. Вусна перакладзіце на рускую мову словы *мова, урок*. Якое слова вымаўляецца і пішацца аднолькава ў рускай і беларускай мовах?

*У нас урок. Мы вывучаем беларускую мову.*

Спішыце.

**4.** Паслухайце верш. Якая птушка лічыцца сімвалам Беларусі?



На бярозе — белы бусел,
пад бярозаю — ручай.
А завецца БЕЛАРУССЮ
непаўторны родны край.
*А. Вольскі.*

**5.** Вусна адкажыце на пытанні.

Як называецца наша краіна?
Як называюць жыхароў Беларусі?
Як называецца мова, на якой размаўляюць беларусы?
Якую птушку лічаць сімвалам Беларусі?

Словы для даведкі: *Рэспубліка Беларусь, беларусы, беларуская, бусел.*

**6.** Прачытайце. Спішыце.

Беларусь — наш родны край.

Якое слова па-рознаму вымаўляецца і пішацца ў беларускай і рускай мовах?

# Гук [і], літары *І, і*

*І і*

**7.** Разгледзьце малюнкі. Прачытайце спачатку назвы садавіны, потым — гародніны. Які гук абазначаецца рознымі літарамі ў рускай і беларускай мовах?



лімоны
кабачкі
буракі
вішні
апельсіны



*садаві́на́* | *гаро́дніна*

**8.** Запішыце літары, спалучэнні літар і словы.

*і ір ім мі іл ін іс іг*

*І Іван Іра*

**9.** Прачытайце словы пад малюнкамі.



*дыня*



*дын..*



*персік*



*персік..*






*вішня* *вішн..* *яблык* *яблык..*

Запішыце словы, якія абазначаюць многа прадметаў. Падкрэсліце ў іх літару ***і***.

**10.** Паслухайце верш.

## Абжора

— Ой, які ў цябе жывоцік!
Што ясі ты, бегемоцік?
— Я спярша, мае сябры,
з'еў бананаў тры вядры,
апельсінаў з'еў паўбочкі,
мандарынаў — два мяшочкі,
соку выпіў вёдраў сем...
Вось пасплю і болей з'ем.

*Д. Вінаградаў.*

Якую садавіну любіць есці бегемоцік? Чаму аўтар называе яго абжорам?

Знайдзіце і прачытайце словы з літарай ***і***.

**11.** Прачытайце подпісы пад малюнкамі. «Збярыце» ў кошык гародніну, у назве якой ёсць ***і***.



*буракі*



*памідоры*



*баклажаны*



*морква*






*фасоля*



*агуркі*



*капуста*



*радыска*

Запішыце словы з літарай ***і***.

**12.** Дапоўніце сказы словамі.

Між галін віселі сакавітыя  .

У бабулі выраслі  .

Запішыце сказы.



**13.** Прачытайце скорагаворку. Выпішыце словы з літарай ***і***.

**Поле Павел буракі, а Ларыса — агуркі.**

## Апо́страф (’)

**14.** Прачытайце словы.

*верабей* *вераб’і*

Якім з прапанаваных слоў можна падпісаць малюнак? Назавіце па парадку гукі ў гэтым слове.



Які знак пішацца ў слове *вераб’і*?



**Апостраф не літара, а надрадковы знак. Там, дзе ў слове стаіць апостраф, пры чытанні вымаўляецца гук [й].**

**15.** Запішыце словы з апострафам.

*б’е п’е вераб’і пер’е сям’я*
*Дар’я*

**16.** Прачытайце. Які знак ёсць ва ўсіх словах?

| | | |
|---|---|---|
| з’езд | б’е | пер’е |
| аб’езд | п’е | вераб’і |
| пад’езд | з’ем | вераб’іны |

**17.** Прачытайце.

## Апостраф

Вось апостраф. Гэта знак.
Вельмі важны ён, аднак.
*З’езд, пад’езд* — напішам проста,
калі ўспомнім пра апостраф.

*А. Вольскі.*

Што такое апостраф? Выпішыце словы з апострафам.

**18.** Прачытайце загадку.




З вераб’інае яечка
ён велічынёю,
а жыве тут дуб вялізны
да хмар вышынёю.

*І. Муравейка.*

З літар складзіце слова-адгадку. Выпішыце з загадкі слова з апострафам.

**19.** Паслухайце верш.



## Рассмяшыў Вася

Рассмяшыў сягоння ў класе
нас сваёю байкай Вася.
Ён сказаў: «З сястрычкай Дашай
салаўя кармілі кашай.
Салавейка кашу з’еў,
чык-чырык — на грушу сеў».
Мы ўсім класам закрычалі:
«Вераб’я вы частавалі».

*В. Кудлачоў.*

Якіх птушак зблытаў Вася? Як дзеці здагадаліся, што Вася частаваў вераб’я?

Знайдзіце і прачытайце словы з апострафам.




**20.** Дапоўніце сказы патрэбнымі словамі.

| | |
|---|---|
| У вераб’я вялікая ... . | *пер’е* |
| У сарокі прыгожае ... . | *сям’я* |

Запішыце сказы. Назавіце словы з апострафам.



**21.** Прачытайце прыказку. Чаму так гавораць?

Прыгожая птушка пер’ем, а чалавек вучэннем.

Выпішыце словы з апострафам.

## Гукі [г], [г’], літары *Г, г*

*Г г*

**22.** Разгледзьце малюнак. Прачытайце скорагаворку.




Пад галінамі яліны гномы гаманілі.

Прачытайце, што гаварылі гномы.



Гукі [г], [г’] у беларускай і рускай мовах вымаўляюцца па-рознаму, але на пісьме абазначаюцца адной і той жа літарай.

**23.** Запішыце спалучэнні літар.




**24.** Прачытайце словы. Правільна вымавіце гукі [г], [г’].

| | | |
|---|---|---|
| гэта | гавары | прыгожая |
| герб | гаворка | герань |
| глядзі | пагавару | непрыгожы |

Назавіце словы з гукам [г’].
Якія расліны ёсць на гербе Беларусі?

**25.** Паслухайце тэкст.



### Такіх кветак не бывае

Неяк гэтым летам мая суседка Таня збірала на лузе кветкі: **рамонак, гарыцвет, трыпутнік.** Яна паказвала іх мне і казала:

— Во якая прыгожая кветка!.. І гэтая прыгожая... І вось гэтая. Я занясу іх бабулі і пастаўлю ў вазу.

— А ты пашукай непрыгожую, — сказаў я. — Самую непрыгожую.

Таня ўважліва паглядзела мне ў вочы і, убачыўшы, што я гавару зусім сур'ёзна, задумалася.

— Такіх кветак не бывае, — нарэшце сказала яна. Потым яшчэ падумала, зноў паглядзела мне ў вочы і рашуча запэўніла: — Нідзе не бывае! *(Паводле В. Гарбука)*.

Якія кветкі збірала на лузе Таня? Што яна гаварыла пра кожную кветку? Чаму дзяўчынка не стала шукаць непрыгожай кветкі?

Выпішыце з тэксту назвы кветак. Падкрэсліце літару ***і***. Прачытайце назву кветкі, у якой ёсць гук [г].

**26.** Разгледзьце малюнкі, прачытайце словы. Назавіце адным словам прадметы на малюнках.


*званочак*


*вяргі́ня*


*дзьмухаве́ц*






*гладыёлус* *ружа* *астра* *гарла́чык*

Якія кветкі вам падабаюцца?

Выпішыце назвы кветак, у якіх ёсць гук [г] або [г’].

Рм **27.** Вусна раскажыце пра сваю любімую кветку. Карыстайцеся словамі ў дужках.

Мая любімая кветка — … . У … *(тонкая, гнуткая, доўгая, тоўстая)* сцяблінка, *(доўгія, тонкія, маленькія, зялёныя, прыгожыя)* лісцікі. Пялёсткі ў … *(чырвонага, сіняга, блакітнага, жоўтага, ружовага)* колеру.



**28.** Прачытайце скорагаворку. Назавіце словы з гукам [г].

Даў Грыша Галі грушу, Галя Грышу — ягады.

## Гук [ч], літары *Ч, ч*

*Ч ч*

**29.** Разгледзьце малюнкі. Скажыце па-руску, што на іх намалявана. Прачытайце словы, запісаныя па-беларуску.




*чай*



*чайнік*



*чайка*

Якімі гукамі адрозніваецца вымаўленне рускіх і беларускіх слоў?



**У беларускай мове гук [ч] вымаўляецца цвёрда: *пчала, чмель, чорны.***

**30.** Запішыце спалучэнні літар і словы.

*ча чо чы чэ чу чачотка*

*Ча Чо Чы Чэ Чу Чашнікі*

**31.** Прачытайце словы. Выразна вымавіце гук [ч].

| | | |
|---|---|---|
| гучна | жучкі | чашачка |
| гучыць | сінічкі | шапачка |
| чырвоны | чорны | нечакана |

Назавіце словы, якія пачынаюцца з гука [ч].

**32.** Разгледзьце малюнкі. Дапоўніце сказы словамі. Назавіце словы з гукам [ч].



*чашачка*



*кубачак*

У кветкі прыгожая ... .
У хлопчыка прыгожы ... .

Запішыце.

**33.** Паслухайце тэкст.

## Лівень

У лесе нечакана сыпануў дождж. Буйны́я цёплыя кроплі гучна заляскалі па траве і лісці дрэў.

І ўсе па**ч**алі́ хава́цца ад дажджу. Жу**ч**кі, матылькі, мухі пазалазілі хто куды: у **ч**аша**ч**кі кветак, пад лісце, у розныя шчылінкі.

Мышка прытаілася пад **ч**ырвоным грыбам-мухаморам.

Сіні**ч**кі ў ду́плы пахаваліся.

А жабы, што сядзелі на беразе сажалкі, думалі, куды б ім схавацца, і ско́кнулі ў ваду.

Так і прасядзелі там, пакуль лівень не скончыўся *(В. Хомчанка)*.

Што пачалі рабіць жывёлы, калі пачаўся дождж?

Якія схованкі яны сабе знайшлі? Чыя схованка выклікала ў вас усмешку? Чаму?

Прачытайце, куды схаваліся ад дажджу жучкі, матылькі, мухі. Правільна вымавіце гук [ч].

Чаму тэкст называецца «Лівень»?



**34.** Прачытайце верш. З чым параўноўвае аўтар вочкі дачушкі?



## Вочкі

Сіненькія вочкі
ў маленькай дочкі.
Кажуць вочкам матылькі:
— Вы не вочкі — васількі.
А можа, званочкі?
— Не, мы — вочкі, вочкі!

*Н. Тулупава.*

Назавіце словы з гукам [ч].
Раскажыце, якія вочы ў вашай матулі.

Словы для даведкі: *прыгожыя, пяшчотныя, ласкавыя, блакітныя, зялёныя, шэрыя, карыя.*



**35.** Прачытайце скорагаворку.

Сінія званочкі раскрылі свае вочкі.

Спішыце.

**36.** Разгледзьце малюнкі. Назавіце прадметы па-руску. Прачытайце беларускія словы.



*шчыпцы*



*шчотка*



*шчыт*

Якімі гукамі адрозніваецца вымаўленне рускіх і беларускіх слоў?

**Правільна вымаўляйце спалучэнне гукаў [шч]: *шчаўе, шчупак, боршч.***

**37.** Прачытайце словы. Выразна вымавіце спалучэнне гукаў [шч].

| | | |
|---|---|---|
| шчаня | шчака | хрушч |
| шчанюк | шчаціна | плашч |
| шчаняты | шчаціністы | боршч |
| шчупак | лешч | шчыгол |
| шчупачок | лешчык | шчыгляня |
| шчупаковы | падлешчык | шчыглік |

Назавіце словы, якія заканчваюцца спалучэннем гукаў [шч].

**38.** Прачытайце тэкст пра сабачку Барсіка.



Барсік ні на кога не падобны. Ён ке́млівы, усё разумее.

Аднойчы дапамог маламу шчанючку́, якога суседзі прывязалі на вяроўку. Шчанюк скуголіў, плакаў. Барсік слухаў яго плач, слухаў і вырашыў дапамагчы.



Ён перагрыз вяроўку і прывёў шчанюка ў сваю будку.



Падбярыце з тэксту сказы да кожнага малюнка. Назавіце словы з гукамі [ч], [шч].

**39.** Прачытайце скорагаворкі. Правільна вымавіце гукі [ч], [шч]. Запішыце першы сказ.

Шчоткай чышчу шчанят.

Шчыгол са шчыгліхай кармілі шчыглянят.

**40.** Да назваў жывёл падбярыце назвы іх дзіцянят.

| | | |
|---|---|---|
| У качкі … . |  | *шчаняты* |
| У курыцы … . |  | *качаняты* |
| У сабакі … . |  | *кураняты* |

Запішыце сказ са словам *шчаняты*.

**41.** Разгледзьце малюнкі. Знайдзіце адпаведныя словы ў пірамідзе.



*рыба*



*ежа*

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | ш | ч | | | | |
| | л | е | ш | ч | ы | т | | |
| п | л | а | ш | ч | а | к | а | |
| б | о | р | ш | ч | а | н | ю | к |



*частка твару чалавека*



*адзенне*



*зброя*



*дзіцяня сабакі*

Запішыце словы пад дыктоўку.



**42.** Прачытайце. Выберыце патрэбныя словы.



Шчупак — *(рыба, птушка)*, а шчыгол — *(рыба, птушка)*.



Запішыце сказ, які атрымаўся.

## Гук [ў] і яго абазначэнне на пісьме

*ў*

**43.** Разгледзьце малюнкі. Скажыце, хто на іх намаляваны. Прачытайце беларускія словы.



*воўк*



*леў*



*жураўлі*

Якім гукам адрозніваецца вымаўленне рускіх і беларускіх слоў? Якой літарай абазначаецца гэты гук?



**Гук [ў] абазначаецца літарай *ў* (*у* нескладовае).**

**44.** Напішыце ў сшытку літары, спалучэнні літар, словы.




**45.** Праспявайце беларускую песню «Саўка ды Грышка» пры дапамозе складоў ***іў (эў)***.




**46.** Прачытайце словы. Выразна вымавіце гук [ў].

| | | |
|---|---|---|
| быў | прыйшоў | салаўі |
| жыў | згубіў | аўсянкі |
| шыў | шукаў | жаўрукі |
| ішоў | знайшоў | жураўлі |

Перачытайце словы апошняга слупка. Змяніце іх так, каб яны называлі адну птушку.

**47.** Паслухайце апавяданне.

## Рукавіца

Андрэйка гуляў у парку і згубіў рукавіцу. Шукаў і не знайшоў.

Праз месяц ён зноў прыйшоў у парк. Прыйшоў і ўбачыў на дрэве сваю рукавіцу. Яна вісела на суку. Андрэйка падышоў і працягнуў да рукавіцы руку. А з яе вылецела птушка. Хлопчык заглянуў у рукавіцу. Ён убачыў там гняздо і чатыры яечкі. Андрэйка здзівіўся. Ён ніколі не чуў, каб птушкі гнёзды вілі ў рукавіцах.



Побач на галінцы скакалі два верабейкі. Гэта яны занялі рукавіцу Андрэйкі *(Паводле В. Хомчанкі)*.

Што здарылася з Андрэйкам у парку? Хто заняў яго рукавіцу? Што было ў рукавіцы?

Прачытайце тэкст. Знайдзіце ў тэксце сказ, якім можна падпісаць малюнак. Назавіце ў ім словы з гукам [ў].

**48.** Прачытайце прыказку. Як сябе адчувае чалавек далёка ад радзімы? Як пра гэта сказана ў прыказцы?

Чалавеку без радзімы, што салаўю без песні.

Назавіце слова з гукам [ў].



**49.** Прачытайце скорагаворкі.

Жораў у небе, у полі жаўрук.
У Паўліка і Ігната гусянят багата.

Выпішыце словы з літарай ***ў***.

**50.** Прачытайце, дапаўняючы словы гукам [ў].

| | | |
|---|---|---|
| ішо.. | разгубі..ся | бы.. |
| крочы.. | здзіві..ся | схава.. |
| хаце.. | дакрану..ся | сабра.. |
| зірну.. | смо..ж | прыгрэ.. |
| убачы.. | а..сянка | зака́па.. |
| гляну.. | ласта..ка | заплака.. |

**51.** Паслухайце тэкст.

## Цёплы грыб



Ішоў па лесе Паўлік і ўбачыў стары́ баравік. Хацеў збіць яго нагой. Раптам з-пад грыба выбегла мале́нькая мышка. Паўлік зірнуў пад шапку баравіка і здзівіўся. Каго там толькі не было: і матылёк, і страказа, і конік, і жучкі! Нават жабка была. Як у тым церамку.

Паўлік дакрануўся пальцам да грыба, а ён — цёплы. Дзень жа быў халодны. Дождж з самай раніцы ішоў. Вось грыб і сабраў пад сваю шапку жыхароў лесу. І прыгрэў, і ад дажджу схаваў.



***ко́нік*** — рус. *кузне́чик*

Каго ўбачыў пад грыбам Паўлік? Чаму лясныя жыхары хаваліся пад грыбам?

Прачытайце тэкст. Назавіце словы з гукам [ў].

Якую яшчэ назву можна даць тэксту?

**52.** Прачытайце. Правільна вымавіце гукі [ч], [г], [ў].




### Смоўж

Раіць пчолка смаўжу:
— Уцякай ад дажджу,
ад дажджу і грому
ўцякай дадому.
Смоўж смяецца:
— Дом жа свой
я заўжды нашу з сабой.

*Хв. Жычка.*

Які дом мае смоўж?

**53.** Прачытайце верш. Назавіце словы з гукам [ў].

Гэй, мураш, спявай гучней!
Запрашай сваіх гасцей!
Матылькоў і павучкоў,
вусеняў і чарвячкоў.

*Т. Мушынская.*



***ву́сень*** — рус. *гу́сеница*

Дапоўніце і запішыце сказ.

Мураш запрасіў ... і ..., ... і ... .

**54.** Адгадайце загадку.

Маша
кашу спажывае,
ціха птушачка
спявае.






Што за птушка,
што за каша —
слова гэтае
падкажа.

*У. Мазго.*

Запішыце слова-адгадку, падкрэсліце літару ***ў***.

Якая аўсянка можа быць смачнай, а якая — маленькай?

**55.** Прачытайце прыказкі. Як лепш рабіць справу: аднаму ці з іншымі людзьмі? У якіх прыказках гаворыцца пра гэта?

Адна ластаўка вясны не робіць.
Адной рукой і вузлоў не завяжаш.
Салаўя песнямі не накорміш.

Выпішыце з прыказак словы з гукам [ў]. Вымавіце тыя з іх, якія абазначаюць назвы птушак.



**56.** Прачытайце верш.

Устаў удод ура́нні,
прыбраў сваё дупло,
і твар памыў у ванне,
і кожнае крыло.

*С. Сокалаў-Воюш.*

Выпішыце словы з гукам [ў].

## Гук [ц’], літары *Ц, ц*



**57.** Разгледзьце малюнак. Вымавіце сказы па-руску і па-беларуску ўслед за настаўнікам.



*— Тихо, Тимоша!* *— Ціха, Цімоша!*

Прачытайце сказы. Як абазначаецца гук [ц’] на пісьме?


У беларускай мове ёсць мяккі гук [ц’]. На пісьме ён абазначаецца літарай *ц*.

**58.** Запішыце спалучэнні літар, словы.

*це ця цё цю ці*

*цень ціха цётачка*

**59.** Прачытайце словы. Які гук абазначаюць выдзеленыя літары?

бра**ц**ік сядзі**ць** снеда**ць**
дзе**ц**і крычы**ць** абеда**ць**
ве**ц**ер абу**ць** вячэра**ць**

**60.** Прачытайце. Правільна вымавіце гукі [ц’], [ў].

### Сараканожкі

Да зары ўстаюць сараканожкі,
каб паспець абуць у боты ножкі.
Ды пакуль абуюць сорак ножак,
ноч настане — і пара́ ў ложак.

*У. Мацвеенка.*

Што выклікала ў вас усмешку?
Выпішыце словы з гукам [ц’].

**61.** Паслухайце тэкст.

## Чаго крычыце́?



У нядзелю ўсе дома. Паселі абедаць. Тата і дзеці — усе вакол стала. А мама заканчвае завіхацца ля пліты і паведамляе, што засмажыла курыцу з салодкай моркаўкай. Чуваць прыемны пах і шыпенне.

— Мне ножку! — закрычала Юля.

— І мне ножку, — крычыць Галя.

— І мне! Мне мама заўсёды дае ножку! — крычыць Толя.

Дзяніс, самы малодшы, сядзіць спакойна і разважае, як дарослы:

— Ну чаго вы крычыце́? Хіба ж курыца сараканожка? *(І. Грамовіч)*.

Дзе сабралася ў нядзелю сям'я? Назавіце ўсіх членаў сям'і, якія сабраліся за сталом. Чаго хацелі старэйшыя дзеці, аб чым яны крычалі? Чаму ў вас выклікалі ўсмешку словы малодшага брата?

Прачытайце размову дзяцей.

**62.** Прачытайце. Назавіце адным словам.

**Тата, мама, бабуля, дзядуля, цётка, брацік, сястра, прабабка, прадзед.**

Вымавіце словы з гукам [ц’].

Назавіце тых членаў сям’і, якіх маеце вы. Як іх завуць? У якіх імёнах вашых сваякоў ёсць гук [ц’].

**63.** Прачытайце прыказку.

**Пры сонейку цёпла, пры матулі добра.**

Назавіце слова з гукам [ц’]. Спішыце.



**64.** Адгадайце загадку. Выпішыце словы з гукам [ц’].



**Я люблю, шкадую іх,**
**добрых брацікаў маіх.**
**Злева пяць і справа пяць.**
**Адгадайце, як іх зваць.**

*В. Кудлачоў.*

Пакажыце на малюнку вялікі, указа́льны, безыме́нны, сярэдні пальцы, ме́зенец.

## Гук [р], літары *Р, р*

*Р р*

**65.** Разгледзьце малюнкі. Скажыце па-руску, што на іх намалявана. Прачытайце словы па-беларуску.



*рэпа*



*рабіна*




*крэм*

Якімі гукамі адрозніваецца вымаўленне рускіх і беларускіх слоў?

**У беларускай мове гук [р] вымаўляецца толькі цвёрда: *рыс, кручок, рэбус.***

**66.** Запішыце спалучэнні літар, словы.

*ра ру кручок рэпа рабіна*

*Р Р Рыта Рома Рэчыца*

**67.** Прачытайце. Правільна вымавіце гук [р].

Марына марынавала моркаўку.

Навучыцеся правільна вымаўляць скорагаворку.

**68.** Прачытайце словы. Выразна вымавіце гук [р].

| | | |
|---|---|---|
| праца | прыбраць | гаспадар |
| праўда | зірнуць | гаспадарыць |
| работа | кватэра | гаспадарка |
| рука | Ларыса | Рыта |
| ручка | Рыгор | Рома |
| ручны | Марыя | Рыма |

Назавіце словы, у якіх ёсць два гукі [р].

**69.** Паслухайце тэкст.

## Самы лепшы малюнак



Маці падмятала падлогу. Пеця сядзеў за сталом і маляваў.

— Мама, я цябе намалюю, — сказаў ён.

— Намалюй.

І Пеця намаляваў маці з венікам у руках. Потым маці чысціла пыласосам дываны. А Пеця таксама яе намаляваў.

Прыбраўшы ў кватэры, маці памыла посуд. Пеця намаляваў яе і за гэтай працай.

Прыйшоў бацька з работы. Пеця адразу ж да яго, пахваліўся:

— Тата, зірні, якую я маму намаляваў. Праўда, добра атрымалася?

— Добра, — згадзіўся бацька.

— А які самы лепшы малюнак?

— Той, які ты не намаляваў.

— Які ж гэта?

— Дзе ты дапамагаеш маме прыбіраць кватэру, мыць посуд *(Паводле В. Хомчанкі)*.

Чым займалася мама? Што ў гэты час рабіў Пеця?

Ці спадабаліся бацьку малюнкі Пеці? Чаму ён не змог выбраць самы лепшы малюнак? Што б вы зрабілі на месцы Пеці?

Прачытайце размову Пеці з татам. Назавіце словы з гукам [р].




**70.** Прачытайце. Выпішыце словы з гукам [р]. Падкрэсліце літары, якія пішуцца пасля ***р***.

Рыта і Грыша — маміны памочнікі. Яны мыюць падлогу, прыбіраюць у кватэры, ходзяць у магазін.

Рм **71.** Раскажыце, як вы дапамагаеце дарослым. Карыстайцеся словамі ў дужках.

Я дапамагаю $\frac{\text{маме}}{\text{бабулі}}$ (мыць талеркі, прыбіраць кватэру, прасаваць сукенку, штаны)

Разам з $\frac{\text{татам}}{\text{дзядулем}}$ мы (прыбіраем кватэру, мыем посуд, майструем розныя рэчы)

Назавіце словы з гукам [р].

**72.** Прачытайце, правільна вымавіце гук [р]. Адгадайце загадку.



**П**араход на мяккім моры
**р**азраўняў умомант хвалі,
**а**ддае ён гальштук Лоры, і —
**с**укеначку для Валі.

*У. Мацвеенка.*

Запішыце слова-адгадку. Назавіце па парадку гукі ў гэтым слове.

**73.** Прачытайце прыказку. Назавіце слова з гукам [р].

У няўмечкі не баляць ні ручкі, ні плечкі.

Хто такі няўмечка? Чаму ў яго нічога не баліць?



**74.** Прачытайце скорагаворку.

Ларыса варыла рыбу з лаўровым лістом.

Спішыце, назавіце словы з гукам [р].

## Гук [дз'] і яго абазначэнне на пісьме

*Дз дз*

**75.** Разгледзьце малюнак. Прачытайце сказы.



Звініць званок. Дзеці вітаюць настаўніцу.

Пры дапамозе [дз'] пакажыце, як звініць званок.

 У беларускай мове гук [дз’] абазначаецца дзвюма літарамі *д* і *з*.

**76.** Запішыце спалучэнні літар, словы.

*дз дзі дзя дзю дзё*
*дзеці людзі Дз Дзіма*

**77.** Прачытайце словы ветлівасці. Правільна вымавіце гукі [дз’], [ч], [р].

Прывітанне!
Добры дзень!
Добры вечар!

Да пабачэння!
Да сустрэчы!
Усяго найлепшага!

Вялікі дзякуй!
Дзякуй!

Якімі словамі мы карыстаемся для развітання? прывітання?

Выпішыце словы, якімі мы выказваем падзяку іншым людзям.

Скажыце, калі мы выказваем падзяку людзям.

**78.** Прачытайце словы. Які гук абазначаюць выдзеленыя літары?

| | | |
|---|---|---|
| дзень | дзякуй | Дзіма |
| дзянёк | дзякаваць | Дзіна |
| дзянькі | падзяка | Дзяніс |

**79.** Паслухайце верш.

## Чатыры пажаданні

Добра, калі ты змалку
Можаш вітаць людзей.
Раніцай: — Добрага ранку!
І апаўдня: — Добры дзень!
Увечары пры сустрэчы
знаёмым сказаць: — Добры вечар!
А соннаму сонейку нанач
і ўсім добрым людзям: — Дабранач!

*В. Вітка.*

Якімі словамі трэба вітаць людзей раніцай? днём? вечарам? Што трэба гаварыць перад сном? Для чаго нам патрэбны ветлівыя словы?

Прачытайце верш. Правільна вымавіце словы з гукам [дз’].

**80.** Прачытайце прыказку. Які настрой ствараюць у людзей ветлівыя словы?

Ласкавае слова — што дзень ясны.

Вымавіце слова з гукам [дз’]. Назавіце па парадку гукі ў гэтым слове. Спішыце прыказку.



**81.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце слова з гукам [дз’].

Добры дзень, лужокквяцісты, гаманлівы, галасісты! *(Н. Галіноўская)*.

## Гук [дж] і яго абазначэнне на пісьме

*Дж дж*

**82.** Разгледзьце малюнак.



Паспрабуйце пры дапамозе гука [дж] паказаць, як гудзе жук.



У беларускай мове гук [дж] абазначаецца дзвюма літарамі ***д*** і ***ж***.

**83.** Запішыце спалучэнні літар, словы.

*Дж джа джэ джо*
*джу джы джала хаджу*

**84.** Прачытайце словы. Правільна вымавіце гукі [дз'] і [дж].

| | | |
|---|---|---|
| дзед | дажджы | джáла |
| дзень | дожджык | джаліць |
| дзверы | дажджынка | ураджай |
| Федзя | дажджлівы | ураджайны |

Якімі літарамі абазначаецца гук [дз']? Назавіце літары, якімі абазначаецца гук [дж].

**85.** Прачытайце. Запомніце і праверце народныя прыкметы.




Ластаўкі нізка лётаюць — будзе дождж.
Многа рабіны — восень дажджлівая, мала — сухая.

Спішыце. Падкрэсліце спалучэнне літар ***дж***.

**86.** Прачытайце часткі тэксту. Пастаўце іх у патрэбнай паслядоўнасці.



Бабуля не пусціла хлопчыкаў у лес.

— Ластаўкі нізка лётаюць — хутка будзе дожджык, — сказала яна.



Быў сонечны дзень. Дзед з Міхаськам перабіралі ву́ды, калі прыбег Федзя. Ён паклікаў Міхаську па грыбы.



А дзядуля падвёў хлопчыкаў да акварыума.

— Калі рыбкі па паверхні вады плаваюць, будзе дожджык, — сказаў ён. — Прырода — жывы барометр.

Пра якія народныя прыметы вы прачыталі? Знайдзіце ў тэксце словы з гукамі [дз’], [дж].

**87.** Прачытайце верш. Знайдзіце і прачытайце словы з гукамі [дз’], [дж], [р], [ц’], [ў].

Божая кароўка,
што заўтра будзе —
дождждык ці пагода?
Пень ці калода?
Пагода — ляці.
Дождждык — сядзі!

Выпішыце словы з гукамі [дз’], [дж].



**88.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць гукі [дз’], [дж].

У маі дажджы — будзе ўраджай.

## Адкажыце на пытанні

**1.** Вымавіце гукі: [дз’], [л], [дж], [м], [ў]. Якіх гукаў няма ў рускай мове?

**2.** Якой літары няма ў рускай мове? Напісанне якой літары адрозніваецца ў рускай і беларускай мовах?

**3.** Што такое апостраф?

**4.** Якія гукі ў беларускай мове абазначаюцца дзвюма літарамі?

# ГУКІ І ЛІТАРЫ

## Гукі мовы

| па-беларуску | па-руску |
|---|---|
| гук | звук |

**Успомніце з урокаў рускай мовы**

З чаго складаюцца словы?

**89.** Вымавіце словы. З якіх гукаў яны складаюцца?

Дзяцел, воўк, лешч, пчала, джала, дзік, ластаўка, шчупак, чапля.

Назавіце тыя гукі ў словах, якіх няма ў рускай мове. У якім слове сустрэліся два «асаблівыя» гукі беларускай мовы.

Словы складаюцца з гукаў мовы.
Гукі мы чуем і вымаўляем.

**90.** Прачытайце скорагаворкі. Вымавіце словы, якія адрозніваюцца адным гукам. Выпішыце іх.

Сава́ саву́ спалохала ў соснах.
Соні сняцца суніцы, Тоні сняцца куніцы.



***суні́цы*** — рус. *земляни́ка*

**91.** Замяніце адзін гук у словах. Назавіце новыя словы.

| зайка | каза | бык | дом |
|---|---|---|---|
| [м] [ч] [л] | [с] [р] | [у] [а] ? | ? ? |

**92.** Да прапанаваных слоў падбярыце словы, якія адрозніваюцца адным гукам.

жук — …
вожык — …
сом — …
бычок — …
кошка — …
мошка — …

Запішыце пары слоў.

У з о р: *леў* — *лес*.

**93.** Прачытайце верш. Калі ў бары паспяваюць чарніцы? Як яны малююць губкі?

### Чарніцы



Абвяшчае бор, бор
на паляне збор, збор.
Чорныя чарніцы,
нібы чараўніцы,
сыплюцца ў кубкі
ды малююць губкі.

*Д. Бічэль.*

Назавіце словы, якія адрозніваюцца адным гукам.

Рм Хто з вас збіраў чарніцы? Як гэта трэба правільна рабіць? Чым карысныя чарніцы?



**94.** Якія словы можна скласці з гукаў [с], [н], [о]? Дапоўніце сказ патрэбным словам.

Спіць спакойна стары́ сом, бачыць ён салодкі … *(С. Касенка)*.

Запішыце сказ.

## Абазначэнне гукаў на пісьме літарамі

| **па-беларуску** | **па-руску** |
|---|---|
| літара | буква |

**Успомніце з урокаў рускай мовы**

Для чаго неабходны літары?

**95.** Разгледзьце малюнкі. Што на іх намалявана?



*с, н, о, ц, а*



*в, с, я, л, к, ё, а*



*а, х, м, р, а*



*з, р, о, к, а*

З літар пад малюнкамі складзіце і запішыце словы.

Гукі на пісьме абазначаюцца літарамі.

**Успомніце**

Якімі літарамі абазначаюцца гукі [дз’], [дж], [ў]?

**96.** Прачытайце. Пра якую пару года гаворыцца ў тэксце? Назавіце асеннія месяцы.

Верасень — першы месяц восені. У верасні зацвітаюць верасы. У кастрычніку шмат пахму́рных **дзён.** **У лістападзе** часта ідуць **дажджы.**

Вымавіце па парадку гукі і назавіце літары ў выдзеленых словах. Спішыце трэці і чацвёрты сказы.

**97.** Прачытайце. Чым асенні лісток падобны на птушанятка?



**Лістапад**

Як малое птушанятка,
перабег лісток дарожку.
**Кінуўся** за **жоўтым** статкам,
мільганулі **толькі** ножкі.

*В. Вітка.*



***ста́так*** — рус. *ста́до*

Вымавіце па парадку гукі, назавіце літары ў выдзеленых словах. У якім слове літар больш, чым гукаў? Чаму?

Запішыце словы з літарай ***ў***.

## Успомніце з урокаў рускай мовы

Ці абазначае гук літара ***ь***?

**98.** Прачытайце прыказкі. Чым адметная восень?

Увосень работ восем.

Багата вясна кветкамі, а восень палéткамі.



***палéтак*** — *засеянае поле*

Выпішыце словы, у якіх літар больш, чым гукаў.

Назавіце словы, якія адрозніваюцца адным гукам. Якімі літарамі яны адрозніваюцца?



**99.** Прачытайце. Вымавіце па парадку гукі, назавіце літары ў выдзеленых словах.

**Паўлік** любіць восень. Але **толькі** тыя дні, калі няма **дажджу**.

Спішыце. Падкрэсліце літару, якая гука не абазначае.

# Беларускі алфаві́т

**100.** Прачытайце назвы літар беларускага алфавіта на форзацы падручніка. Палічыце колькасць літар.

Назавіце літару, якой няма ў рускім алфавіце. Якія літары па-рознаму называюцца ў рускай і беларускай мовах?

Назавіце «суседзяў» літары ў алфавіце.

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ? | б | ? | ? | і | ? | ? | о | ? | ? | ц | ? | ? | ы | ? |

Разгледзьце малюнкі. Для чаго чалавеку трэба добра ведаць алфавіт?






**Гаварыце правільна**

*У алфаві́тным парадку.*






Знайдзіце ў арфаграфічным слоўніку словы *пенал, рукзак*.

Напісанне слоўнікавых слоў можна праверыць па арфаграфічным слоўніку.

**101.** Пастаўце літары ў алфавітным парадку. Дапоўніце дзвюма наступнымі літарамі. Запішыце.

ё, е, з, ж, і, .., .. .
х, ў, т, у, ф, .., .. .
л, о, м, п, н, .., .. .

**102.** Паслухайце верш. Чаму Ганулю можна назваць мамінай памочніцай?

## Маленькая памочніца

Хоць маленькая Ганула,
а памочніца матулі.
Адпачне яна нямнога,
падмяце тады падлогу.
Зробіць школьныя заданні
без памылак, са стараннем.
Сшыткі, кніжкі, ручку, гумку
зложыць акуратна ў сумку.
Посуд вымые Ганула.
Задаволена матуля.

*А. Дзержынскі.*

Прачытайце сказ, у якім сустракаюцца назвы школьных прылад. Выпішыце гэтыя назвы ў алфавітным парадку.

**103.** Дапоўніце сказ назвамі школьных прылад. Упішыце іх у алфавітным парадку.

У рукзаку ёсць …, …, …, … .






*ручка* *гумка* *пэ́ндзлік* *аловак*

Як яшчэ называецца сумка, з якой ходзяць у школу?






**104.** Складзіце слова — назву школьнай прылады з пяці літар.

Першая літара слова стаіць за О,
другая літара — перад Ё,
трэцяя — паміж М і О,
чацвёртая — першая літара алфавіта,
пятая — за К.

Дапоўніце гэтым словам сказ. Запішыце.

Ручкі, алоўкі, гумку і пэндзлік кладуць у … .

# Напісанне вялікай літары ў словах

**105.** Прачытайце скарагаворкі. Навучыцеся правільна вымаўляць іх.

**Пракоп** і **Барыска** елі барбарыскі.

На прагулку ў парк прыйшлі **Патап** і **Карп** *(М. Пазнякоў)*.

Чаму выдзеленыя словы напісаны з вялікай літары? Выпішыце імёны людзей.

З вялікай літары пішуцца:

імёны, імёны па бацьку, прозвішчы людзей;

клічкі жывёл.

**106.** Растлумачце, з якой літары трэба напісаць выдзеленыя словы.



1. Набеглі слязінкі
   на вочкі ***(Г/г)*алінкі:**
   у ліпкі маленькай
   зламаны ***(Г/г)*алінкі.**



2. Сказала на лаўцы
бабуля ***(М/м)*****аруся:**
**— *Я*** так ад хады, мой
унучак, ***(М/м)*****аруся.**
*А. Нафрановіч.*



***мары́цца — стамляцца***

Спішыце першы сказ.

**107.** Якое значэнне мае слова *прозвішча* ў рускай і ў беларускай мовах? Прачытайце на вокладцы сшытка свае прозвішча і імя, запісаныя па-беларуску. Запішыце іх у сшытак.

**108.** Паслухайце жарт.



## Мятая дарога

Дзед едзе на машыне з маленькай унучкаю, якую жартам называе Дар'яй Юр'еўнай. З асфальтаванай дарогі звярнулі на палявую. Раптам машыну на калдобінах пачало падкідваць.

Даша здзіўлена паглядзела на дзеда.

— Ты што, Дар'я Юр'еўна? — пытае дзед.

— Чаму тут дарога такая мятая? *(П. Кавалёў)*.

Што выклікала ў вас усмешку? Чаму Даша назвала палявую дарогу мятай?

Назавіце імя і імя па бацьку, якія сустрэліся ў смяшынцы. Як завуць вашых дзядулю і бабулю?

Прачытайце размову дзеда і ўнучкі.

**109.** Прачытайце. Растлумачце, з якой літары трэба напісаць выдзеленыя словы.

1. Я з сабачкам ***(Ж/ж)*учком**
   крочу борам, саснячком.
   *А. Дзеружынскі.*
2. Ты, кароўка ***(П/п)*адласка**,
   не бадайся, калі ласка.
   *Д. Бічэль.*
3. Ты, ***(Д/д)ружок***, хоць смелы пёс,
   ды ў стажок не сунь свой нос!
   *М. Мятліцкі.*

Спішыце першы сказ.



**110.** Да назваў жывёл дапішыце клічкі.



*Мурка*



*Орлік*



*Барбос*



*Зорачка*

Кошка ..., сабака ..., жарабя ..., карова ... .

**111.** Дапоўніце сказ. Запішыце.

Мая Радзіма называецца ... .

З якой літары пішуцца назвы краін?

З вялікай літары пішуцца:
назвы краін, гарадоў, вёсак, вуліц;
назвы мораў, рэк, азёр.

**112.** Прачытайце верш.

## Твая Беларусь

Мяжуе з Польшчай, Украінай,
Расіяй, Латвіяй, Літвой.
Твой родны край, твая
Айчына —
жыццё тваё і гонар твой.

*Ю. Свірка.*




Выпішыце ў алфавітным парадку назвы краін, з якімі мяжуе Беларусь.

Узор: Латвія, ..., ..., ..., ... .

**113.** Прачытайце. Растлумачце, якія літары трэба ўставіць у словы.

Мы жывём у *(Б/б)*еларусі. Наша сталіца — горад *(М/м)*інск. У *(Б/б)*еларусі многа прыгожых гарадоў. Над *(Н/н)*ёманам стаіць горад *(Г/г)*родна. Над *(Б/б)*угам — горад *(Б/б)*рэст.

Спішыце сказы з назвамі гарадоў.

**114.** Да слоў з левага слупка падбярыце словы з правага слупка.

| | |
|---|---|
| рака | Нарач |
| горад | Днепр |
| возера | Магілёў |

Запішыце пары слоў.

**Рм** Вусна адкажыце на пытанні.

У якім горадзе (вёсцы) ты жывеш?
На якой вуліцы ты жывеш?
Як называецца рака ці возера, якія ёсць у вашым горадзе (вёсцы)?

**115.** Успомніце алфавіт і адгадайце назву ракі з трох літар.

Першая літара гэтага слова стаіць за Р,
другая — перад П,
трэцяя — перад З.

Вусна дапоўніце гэтым словам сказ.

Горад Гомель стаіць на рацэ ... .

Растлумачце правапіс вялікай літары ў словах.



**116.** Навучыцеся правільна чытаць скорагаворку. Растлумачце правапіс вялікай літары ў словах.

Рагатун Рыгорка родам
з Рагачова горада.
Як захоча, зарагоча
рагатлівым рогатам.

*Э. Агняцвет.*

Спішыце першы сказ.

## Галосныя і зычныя гукі

| **па-беларуску** | **па-руску** |
|---|---|
| галосныя | гласные |
| зычныя | согласные |

**Успомніце з урокаў рускай мовы**

Як вымаўляюцца галосныя гукі, а як — зычныя?

**117.** Вымавіце гукі. Які гук лішні? Чаму?

[а], [о], [у], [к], [ы], [і], [э]

Галосных гукаў 6: [а], [о], [у], [ы], [і], [э]. Астатнія гукі зычныя.

**118.** Назавіце літары.

а, в, е, ё, ж, і, й, н, о, у, ў, ы, э, ю, я

Якія літары служаць для абазначэння галосных гукаў? Выпішыце іх.

**119.** Прачытайце подпісы пад малюнкамі. Назавіце адным словам.



*чарніцы*



*суніцы*



*маліны*



*ажыны*

Назавіце галосныя гукі ў словах. Запішыце словы пад дыктоўку настаўніка.

**120.** Прачытайце прыказку. Чаму так гавораць?

Свой час ягадзе, свой час **баравіку.**

Вымавіце выдзеленае слова. Назавіце ў ім галосныя гукі.

**121.** Прачытайце. Што значыць *умець пастаяць за сябе*? Літары галосных ці зычных гукаў прапушчаны ў словах?

С..н..цы — самыя хітрыя ягадкі. Яны пад лісце хаваюцца.

М..л..н.. — цудоўныя ягадкі! І колерам, і смакам чаруюць.

Аж..н.. пастаяць за сябе ўмеюць. Галінкі іх шыпамі пакрыты.

Запішыце сказы, у якіх гаворыцца пра вашы любімыя ягады. Падкрэсліце літары, якія ўставілі.

Якое варэнне можна зварыць з гэтых ягад?



**122.** Прачытайце верш.

**На балоце** жураўліным
мы шукаем **журавіны.**
Абаронай стаць павінны
ад хваробаў — журавіны.

*У. Мазго.*



Спішыце. У выдзеленых словах падкрэсліце літары, якія абазначаюць галосныя гукі.

**123.** Назавіце літары. Якая літара лішняя?

б, в, г, ж, з, й, к, о, п, т, ў, ф, ц, ч, ш

Выпішыце літары, якія абазначаюць зычныя гукі.

**124.** Адгадайце загадку. Вымавіце зычныя гукі ў выдзеленым слове.

Хто з вас сёння бачыў *(Ж/ж)*эню?
*(Ж/ж)*эня з'ела ягад жменю.
Усё ў роце **пачарнела.**
Што такое *(Ж/ж)*эня з'ела?

*У. Мацвеенка.*

Запішыце загадку, выбіраючы патрэбныя літары з дужак. Растлумачце правапіс літар.

**125.** Прачытайце скорагаворку. Навучыцеся правільна вымаўляць яе.

Звала па маліны **Марына** Галіну, Галіна Марыну звала па **каліну** *(В. Вітка)*.

Вымавіце зычныя гукі ў выдзеленых словах. Назавіце словы, якія адрозніваюцца адным зычным гукам.

**126.** Прачытайце. Назавіце ў выдзеленых словах звонкія гукі. У якіх словах літар больш, чым гукаў?

Журавінка-ягадзінка,
**ву́зенькі лісточак,**
у **маленькай** журавінкі —
кветка, як **званочак.**
*А. Дзержынскі.*

Спішыце. У выдзеленых словах падкрэсліце літары, якія абазначаюць звонкія гукі.



**127.** Адгадайце загадку. З «рассыпаных» літар складзіце слова-адгадку.

**На траве,** як **агеньчыкі,** ружавеюць **вугельчыкі.**

ц у н і с ы

Спішыце загадку разам з адгадкай.

У выдзеленых словах падкрэсліце літары, якія абазначаюць звонкія гукі.

## Гукі [у], [ў]. Правапіс слоў з *ў*

**128.** Прачытайце назвы птушак.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ласта | ў | ка | ж | у | равель |
| маліна | | ка | б | | сел |
| жа | | рук | к | | лік |

Чым адрозніваюцца гукі [у] і [ў]? Якой літарай абазначаецца гук [ў]?

Гук [ў] — зычны, гук [у] — галосны.

**129.** Прачытайце.

| **па-руску** | **па-беларуску** |
|---|---|
| а**в**тобус | а**ў**тобус |
| тра**в**ка | тра**ў**ка |
| кладо**в**ка | кладо**ў**ка |

Якімі гукамі адрозніваюцца словы, напісаныя па-руску і па-беларуску?

Спішыце беларускія словы. Падкрэсліце літару ***ў*** разам з папярэдняй літарай.

Пасля якіх літар пішацца ***ў***?

Літара **ў** (**у** нескладовае) пішацца пасля галосных: *леў, праўда, воўк. Улетку Вера жыла ў вёсцы.*

**130.** Прачытайце. Правільна вымавіце словы з гукам [ў].

Ластаўкі, жаўрукі, жураўлі — пералётныя птушкі. Восенню яны адлятаюць у вырай.




Выпішыце словы з гукам [ў] у алфавітным парадку. Падкрэсліце літару ***ў*** адной рыскай, а літару, якая стаіць перад ***ў***, — дзвюма.

**131.** Дапоўніце прыказку слоўнікавым словам. Чаму так гавораць?

 дзень пачынае, а салавей канчае.

Спішыце. Падкрэсліце слова з гукам [ў].

**132.** Прачытайце.

Белавежская пушча самая вядомая ў Беларусі. **Гало..ная ўкра́са пушчы — зубр. Зубр — цар звяро.. . Ён самы вялікі і дужы.**

 ***укра́са — упрыгажэнне, краса***

Якую літару трэба ўставіць у словы? Спішыце выдзеленыя сказы, устаўце прапушчаныя літары.



**133.** Прачытайце. З кім параўноўваецца вецер? Растлумачце правапіс літары ***ў***.

**Вецер уночы выў, як воўк,**
**толькі раніцаю змоўк.**
**Пэўна, ён стаміўся выць**
**і цяпер у садзе спіць.**

*В. Кудлачоў.*

Спішыце першы сказ, падкрэсліце літару ***ў*** разам з папярэдняй літарай.

**134.** Прачытайце.

**Жоўтае лісце падае на зямлю. Зніклі ластаўкі, жураўлі. Няма матылькоў. Дзень стаў кароткім, ноч — доўгай.**

Выпішыце словы з літарай ***ў***. Падкрэсліце літару ***ў*** адной рыскай, а літару, якая стаіць перад ***ў***, — дзвюма.

**135.** Разгледзьце на малюнку помнік літары ***ў***. Прачытайце тэкст і скажыце, у якім горадзе Беларусі ён устаноўлены.



Гук [ў] адметны ў беларускай мове. Літара ***ў*** ёсць толькі ў беларускім алфавіце і ў алфавіце эскімосаў. У горадзе Полацку пастаўлены помнік літары ***ў***.

Назавіце словы з гукам [ў]. Растлумачце правапіс літары ***ў***.

**136.** Прачытайце народныя прыметы.

1. Вялікія мурашнікі **ўвосень** — на суровую зіму. 2. Увосень шмат жалудоў на дубах — на цёплую зіму.

У выдзеленым слове растлумачце правапіс літары ***ў***. Падумайце, чаму ў другім сказе гэтае слова пачынаецца з літары ***у***.

Літара ***ў*** не пішацца пасля знакаў прыпынку: *Улетку Вера з бацькамі хадзіла на рэчку, у лес.*

**137.** Прачытайце загадку. Спішыце, устаўце літару ***у*** або ***ў***.

..дзень адпачывае, а ..ночы лятае.

З літар, якія схаваліся на малюнку, складзіце адгадку.

**138.** Вусна дапоўніце сказы патрэбнымі словамі.

Дачка **дапамагала** маме.
Сын ... маме.

Унучка **чытала** бабулі кнігу.
Унук ... бабулі кнігу.

Дзяўчынка **пісала** ліст.
Хлопчык ... ліст.

Мама **слухала** радыё.
Тата ... радыё.

Запішыце словы, якімі дапоўнілі сказы. Падкрэсліце літару ***ў***.



**139.** Прачытайце сказы. Пра хлопчыкаў ці дзяўчынак ідзе ў іх размова?

Саша дапамагала матулі.
Жэня рабіла ўрокі.

Змяніце адно слова ў кожным сказе так, каб размова ў іх ішла пра хлопчыкаў. Запішыце. Падкрэсліце ў словах літару ***ў***.

**140.** Паслухайце верш. Чаму Яню называюць слаўнай дзяўчынкай? Якія ветлівыя словы гаворыць Яня?

Любім мы сваю Янінку,
нашу слаўную дзяўчынку.
Рана, рана ўстане Яня,
скажа бабцы:
— Прывітанне!
Скажа маме:
— Добры дзень!
На граду затым ідзе
і з ахвотаю, старанна
памагае маме Яня.

*Л. Шырын.*



***дзяўчы́нка***

Прачытайце верш. Растлумачце правапіс літары ***ў***. Спішыце першы сказ.

**141.** Паслухайце тэкст. Чаму ўцёк Уладзік? Як незнаёмы хлопчык абараніў Ганначку? Чаму ён прыйшоў на дапамогу дзяўчынцы?

## Выратавальнік



Уладзік і Ганначка вярталіся са школы. Ішлі і паціху гаварылі. **Раптам ..ладзік абярну..ся і кінуўся наўцёкі.**



Ганначка ледзь не самлела. Вялізны сабака бег проста на яе. Ён бы.. злосны і гырка.. . Дзя..чынка ад страху заплюшчыла вочы.



Раптам незнаёмы хлопчык падбег да Ганначкі і стаў паміж дзя..чынкай і сабакам. Сабака спыні..ся і грозна гляну.. на хлопчыка. Але той не варухну..ся. Сабака апусці.. вочы і адбег ад дзяцей.



***выратава́льнік*** — рус. *спаситель*

Якія літары трэба ўставіць у словы? Растлумачце свой выбар.

Спішыце выдзелены сказ. Падкрэсліце літары, якія ўставілі.

**142.** Прачытайце прыказкі. Чаму ў добрага чалавека шмат сяброў? Як трэба адносіцца да сваіх сяброў?

**1. У добрага чалавека заўсёды многа сяброў. 2. Добраму ўсюды добра.**

Растлумачце правапіс літары ***ў***. Запішыце другую прыказку пад дыктоўку настаўніка. Падкрэсліце літару, якая стаіць перад ***ў***.

**143.** З «рассыпаных» літар складзіце словы.

**д, з, ч, ы, н, я, ў, к, а**
**с, р, я, б, о, ў, а, к**

Дапоўніце патрэбнымі словамі сказы.

**Аленка — добрая … .**
**… заўсёды дапамагае ўсім у класе.**

Запішыце першы сказ. Падкрэсліце літару ***ў***.



**144.** Прачытайце. Выберыце літары, якія трэба ўставіць у словы.

Таня *(у/ў)*стала раніцай,
вокны *(у/ў)*се памыла,
кажа маме: «Я ў пакой
сонейка ўп*(у/ў)*сціла».
*П. Прануза.*

Запішыце. Растлумачце правапіс літар, якія ўставілі.

## Склад. Падзел слоў на склады

| **па-беларуску** | **па-руску** |
|---|---|
| склад | слог |

**Успомніце з урокаў рускай мовы**

Як даведацца, колькі ў слове складоў?

**145.** Вымавіце словы па складах.

Мароз, завіруха, сняжынка, іней, снег.

Колькі ў кожным слове складоў? Як вы пра гэта даведаліся? Спішыце словы, падзяляючы іх на склады.

Колькі ў слове галосных гукаў, столькі і складоў: *лёд, зі-ма, хо-лад, за-ве-я.*

**146.** Дапоўніце словы неабходнымі складамі. Запішыце словы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| сцю.. | лад | мяцелі.. | я |
| хо.. | жа | заве.. | ца |



Складам можа быць адзін галосны гук: *а-рэх.*

**147.** Прачытайце верш. Вымавіце словы першага сказа па складах.



*сцю́жа*

Сцюжа скокі пачала,
паскакала да сяла.
Хай сваволіць! Хай злуе!
Не баюся я яе.

*С. Сокалаў-Воюш.*

Выпішыце з першага сказа словы з двух складоў. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць галосныя гукі.

**148.** Паслухайце тэкст. За што сінічка падзякавала людзям? Як яна гэта зрабіла?



У суботу Дзяніска з татам майстравалі кармушку.

У нядзелю было сонечна. Яны прымацавалі кармушку на балконе. Вераб'ям насыпалі проса. Сініцам паклалі кавалачкі сала. Праз некалькі хвілін вераб'і ўжо знайшлі ежу. Яны падсілкаваліся просам і паляцелі. Сінічкі пачаставаліся салам. Адна птушачка падляцела да акна і асцярожна стукнула дзюбай у шкло. Так сінічка падзякавала людзям *(Паводле Т. Мушынскай)*.



***падсілкава́ліся*** — *падкарміліся*
***про́са*** — рус. *пшено́*

**Рм** Дапоўніце сказ слоўнікавым словам.

Трэба дапамагаць птушкам у зімовую… .

Запішыце сказ. Падкрэсліце ў словах літары, якія абазначаюць галосныя гукі. Абазначце лічбамі над словамі колькасць складоў.

**149.** Памяняйце месцамі склады і назавіце зімовыя месяцы. Чаму яны так называюцца?



жань-сне
дзень-сту
ты-лю

Запішыце назвы зімовых месяцаў.
Колькі ў кожным слове складоў? гукаў? літар?



**150.** Прачытайце скорагаворку. Запішыце, устаўляючы патрэбныя літары.

**У мале́нькай** *(С/с)*ані *(С/с)*ані **едуць** самі.

Падкрэсліце ў выдзеленых словах літары, якія абазначаюць галосныя гукі. Зверху над гэтымі словамі лічбай укажыце колькасць складоў.

**151.** Прачытайце. Адгадайце загадку.

У якой пярыне
зайчык не прастыне?
Ля якой падушкі
ён пагрэе вушкі?
*Д. Бічэль.*




Запішыце адгадку. Падзяліце слова на склады.

**152.** Паслухайце верш. Што хацеў зрабіць мядзведзь? Што ён сказаў пра зіму? Як вы разумееце апошні сказ?

## Мядзведзь

**Заявіў** звярам мядзведзь:
— Хачу студзень паглядзець!
Не **пайду** ў бярлогу спаць,
лапу ўсю зіму смактаць.
Дый **зіма** цяпер не тая —
завіруха не **гуляе**
і марозы не трашчаць.
Не хачу ў бярлозе спаць...
А зіма пачула гэта —
**спаў** мядзведзь ажно да **лета**.

*С. Чыгрын.*

Выпішыце выдзеленыя словы, падзяліце іх на склады. Падкрэсліце слова, якое нельга падзяліць на склады.



**153.** Прачытайце.

Снежна ў снежні месяцы. Снег засыпаў весніцы *(С. Шушкевіч)*.



***ве́сніцы*** *— простыя вясковыя вароты*

Спішыце. Абазначце лічбамі над словамі колькасць складоў.

**154.** «Збярыце» сняжынкі са складамі. Адгадайце словы. Запішыце і запомніце народную прымету.




**155.** Прачытайце прыказку. Чаму так гавораць?

Зіма на лета працуе, а лета на зіму.

Якое слова ў прыказцы мае большую колькасць складоў?



**156.** Прачытайце. Спішыце.

Вавёрка — добрая гаспадыня. На зіму яна рыхтуе запасы арэхаў і жалудоў.

Абазначце лічбамі над словамі колькасць складоў.

## Перанос слоў

### Успомніце з урокаў рускай мовы

Як пераносяцца словы з аднаго радка на другі?

**157.** Прачытайце словы. Колькі складоў у кожным слове? На склады ці для пераносу падзелены словы?

Пляцоў-ка, скакал-ка, вела-сіпед, самакат, валей-бол, ра-кетка.

Як яшчэ можна перанесці гэтыя словы? Запішыце іх, падзяліўшы для пераносу па-іншаму.

Словы пераносяцца з аднаго радка на другі па складах: *ха-кей, сня-жын-ка*.

Склад з адной літары нельга пакідаць на радку ці пераносіць на новы радок: *за-вея, Ірын-ка, іней*.

**158.** Прачытайце верш.

## Мае канькі

Адзяю хутчэй канькі
і да рэчкі — нацянькі.
**Там празрысты звонкі лёд,**
**там вясёлы карагод.**
Я размахваю рукамі,
я пабліскваю канькамі.

*Д. Бічэль.*



***нацянькі́*** — рус. *напрями́к*

Спішыце выдзелены сказ, падзяляючы словы для пераносу. Якія словы нельга падзяліць для пераносу?

**159.** Прачытайце верш.

Чэмпіён між нас — **Я-гор-ка**,
першы ён ва ўсім, бадай,
і **я-му лю-ба-я** горка
ды з трамплінам — не бяда.

*А. Камароўскі.*

Выдзеленыя словы падзелены на склады ці для пераносу? Падзяліце іх для пераносу і запішыце. Якое слова нельга падзяліць для пераносу?

Літары ***й, ў, ь*** пры пераносе не аддзяляюцца ад папярэдняй літары.

**160.** Знайдзіце 5 слоў — назваў рэчаў, неабходных для зімніх гульняў. Выпішыце гэтыя словы. Падзяліце іх для пераносу.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| к | а | н | ь | к | **і** | с | р |
| л | ы | ж | ы | м | **к** | в | а |
| ю | к | р | с | т | **н** | а | к |
| ш | а | й | б | а | **а** | ў | е |
| к | о | м | п | а | **с** | ч | т |
| а | б | в | м | я | ч | о | к |
| с | к | а | к | а | л | к | а |

**Рм** Адкажыце на пытанне, выкарыстайце малюнкі і прапанаваныя словы.

**Чым ты любіш займацца зімой?**

1. Я люблю катацца на … .





2. Я люблю гуляць у ... .

*сне́жкі*   *хакей*

Адказ запішыце.



**161.** Прачытайце верш. Які настрой перадаецца ў ім?

Лёдам бліскае каток,
ззяе востры мой канёк.
Марш бадзёры загучыць —
лёд ад радасці звініць.
*Т. Мушынская.*

Спішыце першы сказ, падзяляючы словы для пераносу.

**162.** Прачытайце прыказку. Чаму ў студзеня такая назва?

Студзень зямлю студзіць.

Назавіце гукі ў словах. Вусна падзяліце словы на склады. Як можна падзяліць словы для пераносу?

Спалучэнні літар ***дз*** і ***дж***, якія абазначаюць гукі **[дз']** і **[дж]**, пры пераносе слоў не раздзяляюцца: *даж-**джы**, ра-**дзі**ма*.

**163.** Прачытайце тэкст. З чым параўноўваецца снег? Чаму?

На голай зямлі ў маразы вымярзае жыта. Часта гінуць кусты і **маладзенькія саджанцы**. Хто іх выратуе? Снег! Ён, як зімовае **адзенне**, пакрывае зямлю і расліны. Праз глыбокі пласт снегу марозу не дабрацца да каранёў раслін. Снег ратуе **ўраджай**.

Выпішыце выдзеленыя словы, падзяліце іх для пераносу.

**164.** Бацька і сын падобныя адзін да аднаго. Дапоўніце прыказкі патрэбнымі словамі, каб сказаць пра гэта.

Якая рука, такая і *(шапка, рукавіца)*.
Якая птушка, такое і *(гняздзечка, лета)*.

Запішыце першую прыказку. Падкрэсліце слова, якое нельга падзяліць для пераносу.

**165.** Прачытайце словы. Знайдзіце адпаведныя прадметы на малюнках. Выпішыце ў адзін слупок назвы зімовага адзення, а ў другі — зімовага абутку. Падзяліце іх для пераносу.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | ф | у | т | р | а | | | |
| | ш | | | | | | у | | | | |
| ч | а | р | а | в | і | ч | к | і | | | |
| | п | | | | | | а | | | | |
| | к | | | | в | | в | | б | | |
| | а | | | п | а | л | і | т | о | | |
| | | | п | а | л | ь | ч | а | т | к | і |
| | | | | | ё | | к | | ы | а | |
| | | | | | н | | і | | | ж | |
| | | | | | к | | | | | у | |
| | | ш | а | л | і | к | | | | х | |



***ша́лік*** — рус. *шарф*

**Рм** Раскажыце, як вы апранаецеся на прагулку зімой.

**166.** Прачытайце верш. Чым заняты кожны член сям'і? Як вы разумееце выраз *не сядзіць без справы*? Хто такі абібок?

## Абібок

Мама вяжа рукавічкі,
я ваксую чаравічкі.
А на кухні дзед з бабуляй
мыюць міскі і каструлі.
Не сядзіць без справы тата —
робіць санкі-самакаты.
Толькі коцік, абібок,
каля грубкі грэе бок.

*М. Хаматкоў.*



***гру́бка*** — *невялікая пакаёвая печ*

Спішыце першы сказ, падзяляючы словы для пераносу.

**167.** Прачытайце. Якімі з прапанаваных слоў можна замяніць слова *абібок*? Запішыце гэтыя словы, падзяляючы іх для пераносу.

Лянівец, гультай, ле́жань, памочнік.



**168.** Прачытайце, адгадайце загадку.



Як **сапраўдны фантазёр,**
ён **кладзе** на **шыбы ўзор.**
**Размалёўвае** іх так,
што **зайздросціць** і **мастак.**

*С. Шах.*



***зайздро́сціць*** — рус. *зави́дует*

Выпішыце выдзеленыя словы. Падзяліце іх для пераносу. Якое слова нельга падзяліць для пераносу? Чаму?

## Націск

| **па-беларуску** | **па-руску** |
|---|---|
| націск | ударение |

**Успомніце з урокаў рускай мовы**

Які склад называецца націскным?

**169.** Прачытайце словы, выдзяляючы голасам націскныя склады. Назавіце адным словам.

Талерка, лыжка, кубак, каструля, чайнік, сподак, міска.

Склад, які вымаўляецца мацней за іншыя склады, называецца націскным: *ква-***тэ́***-ра*, ***ку́****-хня*. Усе астатнія склады ў слове — ненаціскныя.

**170.** Прачытайце. Спішыце.

Маленькая *(В/в)*ерка
разбіла талерку.
Баіцца прызнацца —
без цукерак застацца.
*Н. Дзівіна.*

Пастаўце націск у словах. Падкрэсліце націскныя склады.




**171.** Прачытайце прыказку. Чаму так гавораць?

Зямля — **талерка:** што пакладзеш, тое і возьмеш.

Спішыце. Абазначце націскны склад у выдзеленым слове.

**172.** Вызначце ў словах націскныя склады. З націскных складоў састаўце новыя словы.

1. Маша, тулава, Каляды.
2. Багата, паратунак, елачка.
3. Вязынка, Чэхія, беларусы.

Са слоў, якія ў вас атрымаліся, складзіце і запішыце сказ.

**173.** Прачытайце. Спішыце, пастаўце націск у словах. Чым адрозніваюцца выдзеленыя словы?



Не насеяла мукі  
нават і на піражкі.  
Гэта ж **мука** — не **мука**:  
*(ў/у)*ся ў дробных камяках.

*Н. Сторажава.*

**174.** Прачытайце.

— У Лі́лі былі́?  
— Былі.  
— Малачко пілі́?  
— Пілі.  
— Не так пілі, як лілі́ *(Н. Сторажава)*.

Назавіце пару слоў, якія адрозніваюцца націскам. Растлумачце правапіс вялікай літары ў словах.



**175.** Вызначце ў словах націскныя склады. З націскных складоў састаўце новыя словы.

1. Маліны, рамонкі.
2. Рака, шафа.
3. Маша, Мілана, Коля.

Запішыце словы, якія атрымаліся, абазначце ў іх націск.

**Будзьце ўважлівыя!**

Словы беларускай і рускай моў адрозніваюцца націскам:

| **па-беларуску** | **па-руску** |
| --- | --- |
| крапіва́ | крапи́ва |
| дачка́ | до́чка |
| імя́ | и́мя |
| ваўкі́ | во́лки |

**176.** Прачытайце тэкст. Правільна пастаўце націск у словах. Чаму Аленку называюць мамінай дачкой?

Аленка — маміна дачка. Куды мама, туды і яна! І кватэру разам прыбіраюць,

і ў парк ходзяць, і на дачу ездзяць. На дачы Аленка дапамагае матулі палоць кветкі. Хоць там і крапіва расце, але дзяўчынка не баіцца.

Нават імя ў яе такое, як у мамы. Толькі матулю завуць Алена Пятроўна, а дачушку — проста Аленка.

Выпішыце словы, якія адрозніваюцца месцам націску ў беларускай і рускай мовах. Абазначце ў іх націск.

**177.** Паслухайце тэкст. Што рабіла бабуля з халадцом? Як вы разумееце выраз *разліваць у талеркі*? Ці ведаў пра гэта Лёнька?

## Як правільна гаварыць



На кухні бабуля разлівала ў талеркі **халадзец**. Да яе падышоў **маленькі** Лёнька і спытаў, што яна робіць.

— Халадзец **разліваю**, — адказала бабуля.

Хлопчык **паглядзеў** на бабулю, потым на талеркі, падумаў і кажа:

— Бабуля, ты няправільна гаворыш.

— Чаму няправільна? А як трэба гаварыць?

— Трэба гаварыць «наліваю». Ты ж халадзец наліваеш у талеркі, а не разліваеш. Разліваюць толькі малыя *(П. Рунец)*.

Выпішыце выдзеленыя словы, пастаўце ў іх націск. Па слоўніку праверце правільнасць пастаноўкі націску ў слове *маленькі*.




**178.** Адгадайце загадку. З «рассыпаных» складоў састаўце слова-адгадку.




Кожны дзень са зброяй гэтай
я палю́ю на катлеты.
З першай спробы ў іх пацэліць
вастразу́бы мой ... .

*А. Церашкова.*

Запішыце адгадку, вызначце ў слове націскны склад.

Вусна адкажыце на пытанне.

Якія прыборы ляжаць каля талеркі?



**179.** Дапоўніце сказы патрэбнымі словамі.

Раніцай мама **гатуе** ... .
Днём у школьную **сталовую** мы ходзім на ... .
**Увечары** ў нас на стале смачная ... .

Словы для даведкі: *вячэра, снеданне, абед*.

Праверце па слоўніку правільнасць пастаноўкі націску ў слове *снеданне*.
Спішыце адзін сказ на выбар. Пастаўце націск у выдзеленым слове.



**180.** Прачытайце верш. Кім уяўляе сябе дзяўчынка, калі гуляе з лялькамі?

Наша *(Ю/ю)*ля — гаспадыня.
Не, вячэра не астыне!
Лялек садзіць ля стала,
бо вячэраць ім пара.

*Т. Мушынская.*

Спішыце. Пастаўце націск у словах.

## Галосныя гукі [о], [э]—[а]. Правапіс слоў з літарамі *о, э—а*

**181.** Прачытайце пары слоў.

**жо́**луд — **жа**лу́ды
**ко́**лас — **ка**ла́сы
**боб** — **ба**бы́
**рэ́**кі — **ра**ка́
**цэ́**ны — **ца**на́
**стрэ́**лы — **стра**ла́

Назавіце націскныя склады. Якія галосныя гукі вымаўляюцца пад націскам у выдзеленых складах? Якія галосныя вымаўляюцца замест іх у ненаціскных складах?

У беларускай мове літары ***о, э*** пішуцца ў націскных складах. У ненаціскных складах замест іх пішацца ***а***: *мо́ст — масты́, стрэ́хі — страха́*.

**182.** Прачытайце словы. Вызначце ў іх націскныя склады. Растлумачце, якія літары трэба ўставіць у словы.

Дом — д..мы, д..мік.
Дрэва — др..ўца, др..ўляны.
Гара — г..рка, г..рысты.

Спішыце, падкрэсліце літары, якія ўставілі.

**183.** Прачытайце. Што здарылася з Рыгоркам? Чаму Жэню і Рому можна назваць сапраўднымі сябрамі?

Рыгорка **хворы**. Сумна **хварэць**: ні з татам на **рэчку**, ні з сябрамі на **горку** нельга пайсці. А **гара** каля **ракі** высокая і снежная! Хлопчыкі з самага ранку там катаюцца.



Выглянуў Рыгорка ў акно. А там — снегавік! Усміхнуўся хлопчык. Гэта сябры Жэня і Рома зляпілі яму снегавіка.

Вызначце націскныя склады ў выдзеленых словах. Растлумачце правапіс літар ***о, э — а***.

**184.** Прачытайце прыказку. Чаму так гавораць?

У гультая і стр..ха цячэ, і печ не пячэ.



***страха́*** — рус. *кры́ша*

Спішыце. Устаўце патрэбную літару ў словы, растлумачце яе правапіс.

**185.** Прачытайце. Змяніце словы ў дужках так, як патрабуе сэнс. Пастаўце націск у гэтых словах. Растлумачце, чаму змяніліся галосныя.

Зімой *(рака́)* пакрываюцца лёдам.

Дзеці любяць катацца на санках з высокай *(го́ры)*.

Спішыце адзін сказ на выбар.



**186.** Прачытайце скорагаворку. Вызначце націск у словах з прапушчанымі літарамі. Спішыце. Устаўце замест кропак ***о*** або ***а***.

Б..б ды б..б — два б..бы́,
а яшчэ б..б — тры б..бы́.

**187.** Прачытайце. Вызначце націскныя склады і растлумачце правапіс літар ***о, э — а*** ў выдзеленых словах.

Я пусціўся ў **скокі** — бачу:
дзевяць **хлопцаў** «Бульбу» скачуць.

*Э. Агняцвет.*

Змяніце словы так, каб замест ***о*** стала ***а***.

Пра якую «Бульбу» ідзе размова ў вершы? Якія яшчэ танцы вы ведаеце?

**Рм** **188.** Прачытайце. Дапоўніце сказы патрэбнымі словамі па ўзоры.



У з о р. *Воўк вялікі, а ваўчаня маленькае.*



Слон вялікі, а ... маленькае.



Лось вялікі, а ... маленькае.



Кот вялікі, а ... маленькае.

С л о в ы д л я д а в е д к і: *сланяня, ласяня, кацяня.*

Запішыце два сказы (на выбар). Растлумачце ў словах правапіс літар ***о, а***. Вусна прыдумайце свае сказы.

**189.** Прачытайце. Колькі кацянят заскакала ў танцы? Як вы думаеце, на які беларускі танец падобны «Кашачок»?

К..шка грае на раялі,
к..цяняты заск..калі:
восем лапак ск..к ды ск..к —
слаўны танец «Кашачок».

*Н. Галіноўская.*

Вызначце месца націску ў словах з прапушчанымі літарамі.

Выпішыце гэтыя словы, устаўце замест кропак літару ***о*** або ***а***.

**190.** Прачытайце тэкст. Якія літары трэба ўставіць у словы? Растлумачце іх правапіс.

У лесе пачуўся тр..ск. Гэта тр..шчаць галіны пад капытамі л..ся. Л..сь — лясны волат, а нікога не крыўдзіць. Р..́гі л..сіныя нібы карона *(У. Ягоўдзік)*.

Спішыце два апошнія сказы. Падкрэсліце літары, якія ўставілі.



**191.** Прачытайце скорагаворку. Навучыцеся правільна вымаўляць яе.

В..ўк в..ўчаня авечак браць вучыць.

Як называюць дзіцянё авечкі?

Назавіце літары, якія прапушчаны ў словах. Спішыце, растлумачце іх правапіс.

**192.** Прачытайце верш. Кім марыць стаць хлопчык? А чым вы хочаце займацца, калі вырасцеце?



Я малюю матроску  
і кашулю ў **пал..ску**,  
бесказырку, ззаду стужкі,  
на іх — якары, як птушкі,  
карабель, у хвалях **м..ра**.  
Падрасту і стану **ск..ра**  
я сапраўдным **м..раком** —  
і пакіну **р..дны д..м**.

*Н. Галіноўская.*

Выпішыце выдзеленыя словы. Устаўце патрэбныя літары, растлумачце іх правапіс.

**193.** Прачытайце скорагаворку. Што робіць тачыльшчык?

### Тачыльшчык

**Тачу, тачу, абточваю,**
**начыста заточваю,**
**канцы з канцамі сточваю.**

*В. Вітка.*

Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

**194.** Дапоўніце сказы патрэбнымі словамі. Вызначце ў іх націск. Растлумачце правапіс літар ***о, э — а***.

Пчала села на кветку.  паляцелі ў вулей.

Сава — начная птушка.  жывуць у лесе.

Каза дае малако.  пасвяцца на лузе.

Запішыце сказы, якія дапоўнілі словамі, пад дыктоўку.

**195.** Прачытайце словы. Устаўце патрэбныя літары, растлумачце іх правапіс.

уч..ра — уч..рашні

**РМ** Адкажыце на адно з пытанняў, выкарыстайце прапанаваныя словы.




Што ты рабіў учора?
Што ты рабіла ўчора?

Словы для даведкі: *гуля(ў/ла) на вуліцы, чыта(ў/ла) кнігу, вучы(ў/ла) урокі.*

**196.** Дапоўніце прыказку слоўнікавым словам. Чаму так гавораць?

... не **даг..ніш**, ад «заўтра» не ўцячэш.

Растлумачце правапіс выдзеленага слова. Змяніце яго так, каб замест ***о*** вымаўлялася ***а***.



**197.** Прачытайце. Растлумачце, якія літары трэба ўставіць у словы. Спішыце адну з прыказак на выбар.

Кожная с..сна свайму б..́ру песню спявае.
З р..днага б..́ку і в..рона мілая.

# Правапіс слоў з літарамі *е, ё—я*

**198.** Прачытайце словы парамі.

землі — зямля
гнёзды — гняздо
лес — лясы
вецер — вятры

Вызначце націск у словах. Якія літары пішуцца ў націскных складах?

Якая літара пішацца замест ***е, ё*** ў першым складзе перад націскам?

У першым складзе перад націскам замест літар ***е, ё*** пішацца ***я***: ***цёмны — цямне́ць, све́тлы — святло́***.

**199.** Спішыце. Устаўце літару ***е, ё*** або ***я***. Абазначце націск у словах, падкрэсліце першы склад перад націскам.

Снег — сн..гі, сн..жынка.
Звер — зв..ры, зв..рыны.
Лёд — л..док, л..довы.

**200.** Прачытайце. Выпішыце выдзеленыя словы парамі, пастаўце ў іх націск. Падкрэсліце першы склад перад націскам.

Узор: *лёд — лядко́м.*

Цэлы дзень ішоў **снег. Сняжок** пакрыў палі і лугі.

На рацэ блішчыць **лёд.** Лужыны зацягнула тонкім **лядком.**

**Дзень** быў ціхі і марозны. Спадабаўся нам гэты **дзянёк.**

На снезе кожны **звер** пакідае свой **след.** У лесе шмат **звярыных слядоў.**

**201.** Прачытайце прыказку. Чаму так гавораць?

Якія літары трэба ўставіць замест пропускаў? Растлумачце правапіс літар **е, ё—*я***.

Студзень з..млю студзіць, ды надзею на в..сну грэе.

Спішыце. Падкрэсліце літары, якія ўставілі.

**202.** Прачытайце верш.

## Ёлка

Ёлачка-баро́вачка
ў хатку да ц**я**пла
ад шэрага воўка
з бору ўц**я**кла.
Мы ёй падарылі
цацкі і шары,
зоркай азарылі —
гары́, гары́!
А навокал **ё**лкі
танцы і смех.
Разв**я**жы, дз**я**дуля,
з цукеркамі мех!

*Д. Бічэль.*



Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

**Рм** Раскажыце, як ваша сям'я святкуе Новы год. Выкарыстайце прапанаваныя словы і спалучэнні.

Словы для даведкі: *упрыгожваем ёлку, рыхтуем падарункі, ходзім у госці, загадваем жаданні, весялімся, спяваем песні, падарункі Дзеда Мароза.*



**203.** Прачытайце і адгадайце загадку.

Б..лым пухам зам..ло
і дарогі, і с..ло...
Мост праз рэчку хутка ляжа,
а што гэта, хто адкажа?

*У. Мацвеенка.*

Спішыце першы сказ. Устаўце літары ***е, ё*** або ***я***, растлумачце іх правапіс.

Запішыце слова-адгадку.

**204.** Змяніце словы па ўзоры. Запішыце іх і абазначце націск. Падкрэсліце першы склад перад націскам. Растлумачце правапіс.

| | |
|---|---|
| *звер — звяро́к* | *мётлы — мятла́* |
| лес — ... | вёсны — ... |
| дзень — ... | землі — ... |

**205.** Прачытайце словы. Вызначце ў іх націскныя склады.

| | |
|---|---|
| цёплы | цяпло, **це-плы-ня** |
| цёмны | цямней, **цем-на-ва-ты** |
| лес | лясок, **ле-са-вік** |

Якія літары пішуцца пад націскам у словах першага слупка? Якая літара пішацца замест **е, ё** ў першым складзе перад націскам? Якая літара пішацца замест **ё** ў астатніх складах?

Спішыце выдзеленыя словы. Пастаўце ў іх націск. Падкрэсліце склады з літарай **е**.

У з о р: *цемнава́ты*.



**У другім, трэцім і іншых складах перад націскам, а таксама пасля націску пішацца *е*: *це-це-ру-кі́* (3, 2, 1), *во́-зе-ра*, *ве́-цер*.**

**206.** Прачытайце. Чаму снегіру далі такое імя?

У нас сн..гіра можна бачыць толькі зімой. **З першым сн..гам да нас прылятаюць сн..гіры. Сн..гір не баіцца холаду.** Корміцца ён ягадамі рабіны. В..сной, калі растане снег, сн..гіры адл..таюць на поўнач, у родныя м..сціны.

Якія літары трэба ўставіць замест пропускаў? Растлумачце правапіс літар ***е, ё — я***.

Спішыце выдзеленыя сказы. Устаўце прапушчаныя літары, абазначце ў словах націск.

**207.** Разгадайце рэбус і даведайцеся, якая птушка начуе ў снезе.




*дзяцел сініца снягір бусел сарока*

Растлумачце правапіс літар ***е, я*** ў адгадцы.

**Гаварыце правільна**

*Зане́слі, заве́злі, забе́глі.*

**Рм** **208.** Дапоўніце сказы патрэбнымі словамі з рубрыкі «Гаварыце правільна».

Пад Новы год тата і мама ... Ірынку і Косціка ў в**ё**ску да бабулі і дз**я**дулі. Дз**е**ці хуценька ... ў хату. Яны першымі павіншавалі бабулю і дзядулю са святам. Сл**е**дам у хату ўвайшлі мама з татам і ... сумкі з падарункамі.



Растлумачце правапіс выдзеленых літар.



**209.** Прачытайце. Пастаўце націск у словах. Якія літары трэба ўставіць у словы?

1. У снежні сн..жынкі занеслі ўсе сц..жынкі. 2. Студзень — году пачатак, зіме — с..рэдзіна.

Спішыце. Устаўце ў словы літары ***е, ё*** або ***я***.

**210.** Прачытайце скорагаворку. Навучыцеся правільна вымаўляць яе.

**Ця**цера цераз бор л**я**цела, ц**е**ц**е**рука знайсці хацела.

Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

Рм **211.** Прачытайце. Растлумачце правапіс выдзеленых літар і слоў.

## Сінічка

Аднойчы прыл**я**цела сінічка да **а**кна. Сюды загнала яе **сцюжа**. Гаспадар пашк**а**даваў птушку і адчыніў акно. Сінічка пал**я**цела ў хату. **Я**на праг**а**л**а**далася і пачала дз**я**ўбці хлебныя кр**о**шкі.

Адкажыце на пытанні.

1. Хто прыляцеў аднойчы да акна?
2. Што загнала яе сюды?
3. Што зрабіў гаспадар?
4. Куды паляцела сінічка?
5. Як яна паводзіла сябе?

Вусна перакажыце тэкст па пытаннях.

**212.** З прапанаваных частак састаўце прыказкі. Чаму так гавораць?

Сарока сароку

і верабей сыты.

Пакармі птушак зімой,

бачыць здалёку.

Увосень

яны адплоцяць вясной.

Растлумачце правапіс выдзеленых літар. Запішыце прыказку, якая падыходзіць да тэксту з практыкавання 211.

**213.** Прачытайце верш. Адкажыце на пытанне верша.

Я павесіў тры к..рмушкі.
Прылятайце есці, птушкі.
Неўзабаве прыл..целі,
на к..рмушкі ўсе паселі —
пяць в..сёлых в..раб'ёў,
шэсць прыг..жых сн..гіроў,
дзве сар..кі, тры сініцы.
Колькі ўсіх? Хутчэй лічыце.

*М. Пазнякоў.*





***неўзаба́ве — хутка***

Якія літары трэба ўставіць замест пропускаў? Растлумачце правапіс слоў з прапушчанымі літарамі.



**214.** Адгадайце загадку.

Пырх — з г..лінкі на сн..жок.
Сам чырвоны, як сц..жок.

*А. Вольскі.*

г р я с і н

Запішыце загадку разам з адгадкай. Падкрэсліце літары, якія ўставілі. Растлумачце іх правапіс.

## Слоўнікавая словы

---

вераб’і́
відэ́лец
дзяўчы́нка
дождж
кватэ́ра
ла́стаўка
рукза́к
сцю́жа
тале́рка
учо́ра

# З м е с т

## УСТУПНЫ МОЎНЫ КУРС



## ГУКІ І ЛІТАРЫ

(Назва і нумар установы агульнай сярэдняй адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан падручніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне падручнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |


Вучэбнае выданне

**Свірыдзенка** Вольга Іванаўна

БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Падручнік для 2 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з рускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 1

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Н. М. Мамчыц*
Мастак *М. У. Мароз*. Мастацкі рэдактар *Н. У. Кузьмянкова*
Камп'ютарная вёрстка *А. М. Брыкет*
Карэктары *Д. Р. Лосік, Л. Г. Ганчарэнка*

Падпісана ў друк 19.01.2015. Фармат 70×90/16. Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 8,19. Ул.-выд. арк. 3,37. Тыраж 118 700 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/263 ад 02.04.2014. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа». Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск